## ЛИШЕННЫЙ СТАТУСА ИСТОРИКО-КУЛЬТУРНОГО НАСЛЕДИЯ ДОМ НА ЛАЗАРЕНКО 15 ИЗМЕНЯЕТСЯ ДО НЕУЗНАВАЕМОСТИ (продолжение стр.3)

«Если предположить, что обе цифры действительны, то возникает вопрос, куда пошла разница. Думаю, эта информация должна заинтересовать следственные органы», — сказал тогда Кравченко.

В декабре 2013 года здание наряду с домами №№ 5, 7 и 13 было выведено из списка историко-культурного наследия.

Организации, которым переданы эти здания, теперь смогут быстро решать все вопросы, заявлял тогда председатель горисполкома Владимир Цумарев. «Они должны оперативно приступить к работам: либо к реконструкции, либо к строительству помещений дополнительных», — отмечал градоначальник.

Сегодня у дома по Лазаренко 15 пристроен еще один этаж, здание удлинено с левой стороны. Вместе с тем осталась дата на сохранившемся фронтоне «1910».




«Из дома вековой давности сделали новостройку», - говорит Владимир Кравченко. По его словам, теперь дата «1910» не соответствует действительности, потому что тогда подобной постройки не было.

С ним не вполне согласен Игорь Пушкин, который указывает, что в мире существует практика, когда при реконструкции здания частично сохраняется аутентика, а к ней делаются новые пристройки. «Он не становится новоделом. У него сохраняется аутентичная часть и появляется пристройка», - говорит Пушкин, подчеркивая, что на здании должно быть четко видно, где старое, а где новое.

Вместе с тем он крайне негативно отнесся к тому, что общественность была отстранена и от обсуждения проекта реконструкции здания и хода нынешних работ в нем.

«Оценить здание мы сможем, только когда они закончат. А тогда уже что-то исправлять будет поздно», - отмечает историк.

■ Якуб Корсак

## ГАЛОЎНЫ РЭДАКТАР ГАЗЕТЫ «НАШ МАГІЛЁЎ» АБСКАРДЗІЎ ШТРАФ ЗА ГАЗЕТЫ

**Адпаведная касацыйная скарга была накіравана, 29 жніўня, у Магілёўскі абласны суд. У скарзе Ігар Барысаў патрабуе адмяніць рашэнне суддзі Станіслава Леўчанкі суда Магілёўскага раёна Магілёўскай вобласці ад 12 жніўня.**




Паводле рэдактара, рашэнне суддзі можна адмяніць проста па фармальных прычынах, бо ў судзе не было ўстаноўлена, якую друкаваную прадукцыю ён перавозіў на сваёй машыне (улёткі, бюлетэні ці газеты), які з пунктаў артыкула 17 закона "Аб СМІ" ён парушыў, а таксама тое, што пратакол судовага пасяджэння адрозніваецца ад матывіровачнай часткі пастановы суда.

Акрамя таго, Ігар Барысаў лічыць, што рашэнне раённага суда супярэчыць як Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь, так і нормам міжнароднага права, у адпаведнасці з якімі кожны грамадзянін мае права на свабоду перакананняў і свабодны распаўсюд інфармацыі.

Нагадаем, што ўначы 16 ліпеня аўтамабіль галоўнага рэдактара газеты «НАШ Магілёў» быў прыпынены ў прыгарадзе Магілёва супрацоўнікамі ДАІ. Яны паведамілі, што на аўтамабіль сацыял-дэмакрата прыйшла арыенціроўка, нібы на ім было здзейснена хуліганства ў райцэнтры Бялынічы. Інспектары паведамілі, што для разбіральніцтва неабходна праехаць у Магілёўскі РАУС. У аддзяленні міліцыі была дагледжана машына Барысава і канфіскаваны друкаваныя матэрыялы. Нумар "Сацыял-дэмакрат" быў прысвечаны пытанням "Народнага рэферэндума", а нумар "НАШага Магілёва" – інфармацыйнай кампаніі "Захаваем стары Магілёў", якая праходзіць у горадзе.

Па рашэнні Магілёўскага раённага суда Ігар Барысаў атрымаў штраф у памеры 30 базавых велічынь (4,5 мільёны рублёў).

# НАШ МАГІЛЁЎ

http://gazetanm.eu

№79

Надрукавана на ксераксе.
Наклад 299 ас.
Адрас рэдакцыі: Магілёў, вул. Ленінская, 29.
Распаўсюджваецца бясплатна.
gazetanm.eu@gmail.com

**Галоўны рэдактар - Вітольд Няўрыда**

Незалежнае грамадска-палітычнае выданне горада. 3 верасня 2014 г.

ГРАМАДСТВА

■ Уладзімір Лапцэвіч

## АЛЯКСАНДР АГЕЕЎ: БАГАЯЎЛЕНСКІ ХРАМ ЗАСТАЎСЯ ТОЛЬКІ ПАД ЗЯМЛЁЙ

**Сёння ў Магілёве няма Багаяўленскага храма – месца, дзе паміж цяперашнімі вуліцамі Шклоўская (Першамайская) і Ветраная (Ленінская), месціўся Брацкі манастыр. Яго, як і ратушу, зруйнавалі бязбожныя камуністычныя ўлады. Але пры жаданні ён можа быць адноўлены, лічыць гісторык, кандыдат гістарычных навук, дацэнт кафедры археалогіі і спецыяльных гістарычных дысцыплін МДУ імя Куляшова Аляксандр Агееў.**



**Аляксандр, чым быў адметны Багаяўленскі храм сярод іншых храмаў Магілёва?**

Багаяўленская царква – гэта храм 17 стагоддзя, перыяда росквіта горада Магілёва, калі хапала грошай, калі ў горада былі вельмі вялікія амбіцыі. Храм быў пабудаваны праваслаўным, але ў барочным стылі. У гэтым сэнсе, ў нас была ўнікальная магілёўская школа дойлідства. У яе рысах спалучалася еўрапейскасць і старажытнарускія традыцыі. На Багаяўленскім храме быў адзін з першых у горадзе гадзіннікаў.

Варта адзначыць, што нашы храмы – ці то каталіцкія, ці то праваслаўныя распісвалі мясцовыя мастакі. І тут прыналежнасць канфесійная не мела аніякага значэння – адна і тая ж брыгада магла працаваць на праваслаўным храме, а потым на каталіцкім касцеле.

Багаяўленскі храм, канешне, шмат разоў перабудоўваўся, перажыў некалькі пажараў, рэканструкцый у XVIII – XIX стагоддзях. Перажыў нават апошнюю вайну, хаця быў моцна пашкоджаны – дах быў прабіты бамбардзіроўшчыкамі савецкай авіяцыі, калі выганялі немцаў.

Працяг на стр.2

**У Магілёве больш за 20 грамадзян просяць прыбраць "цыбуліну" з брамы Свята-Мікольскага манастыра**

Адпаведны зварот яны накіравалі ў Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь, а таксама Магілёўскі гарадскі выканаўчы камітэт.

Грамадзяне абураныя тым, што на ўязной браме XVII стагоддзя Свята-Мікольскага манастыра вырасла "цыбуліна". На іх думку яе з'яўленне не было ні з кім узгоднена і толькі сапсавала непаўторнасць адзінага застаўшагася ў Магілёве помніка дойлідства ў стыле Магілёўскага барокка.

Падпісанты адзначаюць, што менавіта з рэстаўрацыі ўязной брамы XVII стагоддзя пачалося архітэктурнае адраджэнне Магілёва ў пачатку 90-х гадоў мінулага стагоддзя. Калі браму адраджалі пад кіраўніцтвам археолага і гісторыка Алега Трусава ніякай "цыбуліны" тады там не было.

Грамадзяне адзначаюць, што тыя, хто ўсталяваў падобны царкоўны атрыбут праявілі недальнабачнасць, бо комплекс манастыра мае больш-менш рэальныя шанцы ў будучыні быць далучыным да сусветнай архітэктурна-культурнай спадчыны ЮНЭСКА, аднак, калі мясцовыя чыноўнікі будуць глядзець заплюснуўшы вочы на падобныя свавольствы вернікаў і дазваляць ім рабіць усё што ўздумаецца, то гэты статус манастыр ніколі не займее.



На фота Аляксандр Агееў

У 1957 годзе храм быў разабраны, бо да 40-годдзя Кастрычніцкай рэвалюцыі вырашылі горад прыбраць ад муроў. Канешне, калі б яго аддалі вернікам, то храм бы стаяў і сёння. Дарэчы, будаўнікі нядрэнна зараблялі на разборах аварыйных дамоў у цэнтры горада, хаця потым распавядалі, як балела ў іх сэрца пасля разборкі Багаяўленскага храма.

**Якія архітэктурныя асаблівасці былі ўласцівыя храму?**

Канешне, Багаяўленскі храм цікавы ў архітэктурным плане. Ён паказвае з аднаго боку праваслаўную адметнасць краю. Паглядзіце, у Еўропе тыповых каталіцкіх храмаў хапае. На ўскрайках Еўропы – ў Іспаніі, у нас іншым разам выпрацоўваліся вельмі своеасаблівыя стылі. Вось і тут мы бачым спалучэнне крыжова-купальнай канструкцыі, старажытнарускіх адметнасцяў, якія каранямі сыходзяць у Візантыю, і традыцый еўрапейскага барочнага стылю. Вось гэтым, перш наперш, архітэктурна і цікавы Багаяўленскі храм.

Акрамя таго, у Магілёве не было класічнай готыкі, а барока было. Цяпер жа ў цэнтры горада няма ніводнага храма ў стылі барока, які б захаваўся. Ёсць храм у Падніколлі, але калі б яшчэ і зверху на гары стаяў, то, гуляючы па Ветранай, а потым па Вялікай Садовай, мы б сустракалі амаль ўсе архітэктурныя стылі Беларусі, бо яны якія былі тут.

Пасля Ратушы мы б маглі пабачыць яўна барочны стыль Багаяўленскага храма. Таму яго аднаўленне павысіла б прывабнасць цэнтра горада для турыстаў. Увогуле, там дзе ёсць храм, то ствараецца зусім іншая атмасфера. Тым больш гэта важна ў гістарычнам цэнтры.

**Якія гістарычныя падзеі звязаны з Багаяўленскім храмам?**

Зараз гісторыя храма не апісана ў нейкім асобным выданні, хаця да рэвалюцыі выдаваліся кніжкі аб Брацкім манастыры. Але я ўпэўнены, як толькі мы возьмемся пісаць гісторыю гэтага манастыра, то там усплыве мноства цікавага. Як, напрыклад, было з Ратушай. Яна была проста сімвалам самакіравання і савецкага дзікунства, калі яе руйнавалі. А калі я і гісторык Алег Трусаў пачалі пісаць кніжку пра яе, то там усплылі ўсе сюжэты магілёўскай гісторыі. Калі пашукаць, то я ўпэўнены, што мы знойдзем сведчанні, як туды заходзілі каралі і імператары. Я дакладна ведаю, што туды заходзіў Мікалай ІІ. Хутчэй за ўсё, заходзіла Кацярына ІІ. Калі пашукаць, то храм насыціцца гісторыяй. Тым больш, што знаходзіўся ён у цэнтры горада.

**Калі адняўляць Багаяўленскі храм, ці спатрэбіцца для гэтага нешта зруйнаваць?**

Да нашых дзён дайшлі толькі падмуркі Багаяўленскага храма. Яны засыпаны зямлей і ў гэтым сэнсе добра законсерваваны. Месца ж храма цяпер нічым каштоўным не занята. Там стаіць невялічкі будынак з сілікатнай цэглы, які раней быў дзіцячым садком, а цяпер гэта мастацкая школа. Тут праблем няма – ніякай каштоўнасці ён не прадстаўляе. Праз пару дзесяткаў гадоў яго трэба будзе зносіць проста з-за таго, што ён вычарпае свой рэсурс – цэгла пачне крышыцца сама па сабе. То бок гэта пытанне часу, калі гэты будынак будзе знесены.

Адбудаваную Багаяўленскую царкву можна было б выкарыстоўваць як культавы будынак альбо як канцэртную залу для харавой музыкі, для канцэртаў, як кажуць, высокага стылю.

Жыхары горады павіны вырашыць, што гэта будзе. Кошты, канешне, не малыя, але я магу сказаць, што такія праекты звычайна акупляюцца. Ратуша таму прыклад. Бо калі яе адбудавалі, то яе ўсе прынялі. З'явілася нейкая іншая атмасфера месца. Турыстам не на пальцах паказваеш гісторыю горада, а яны нешта бачаць. Таксама ратуша стала месцам правядзення розных святаў для магілёўцаў, грамадскім цэнтрам.

Таму я вельмі рады, што зараз стаіць гэты будынак былога дзіцячага садка на месцы Багаяўленскага храма, і гэта не дазваляе нікому там нешта офісна – рэстаранна пабудаваць.

У ідэале, я лічу, – дзяржава зруйнавала, дзяржава павінна абнавіць. І передаць царкве хаця б будынак. Ужо ўнутраны аздабленне грамада сама зробіць. Гэта было б ідэальна – каталікам пабудаваць касцёл Святога Ксаверыя, а праваслаўным – Багаяўленскую царкву.

На жаль, нашы мары пакуль спатыкаюцца аб няспрыяльную для спадчыны рэчаіснасць. Літаральна днямі ўбачыў, што парэшткі падмуркаў манастыра ў двары кавярні "Ідылія" і Белтэлекама канчаткова згрэблі, як смецце, бульдозерам. У чарговы раз прыходзіцца канстатаваць, што горад нясе страты і даведваецца аб іх, калі ўжо позна нават лямантаваць.






Станіслаў Дубовік

# ЛИШЕННЫЙ СТАТУСА ИСТОРИКО-КУЛЬТУРНОГО НАСЛЕДИЯ ДОМ НА ЛАЗАРЕНКО 15 ИЗМЕНЯЕТСЯ ДО НЕУЗНАВАЕМОСТИ

**История здания по улице Лазаренко 15 в Могилеве приобрела особенное звучание осенью-зимой 2013 года. Дело, так или иначе связанное с его «изменением», доходило даже до суда. В декабре дом 1910 года постройки перестал быть историко-культурным наследием и сегодня его внешний облик строительная компания «Сектор» изменяет до неузнаваемости.**



«Это обычный дом гражданской застройки. Ведь город славен не только церквями, синагогами, но и обыкновенными домами, в которых жили люди. Хвастаться домами, где соломенная крыша, как-то не принято. Но интересны дома, которые построены из камня, и которые могли бы долго простоять, и в которых жили горожане. Причем не самые худшие горожане, а лучшие селились в каменных домах – это и врачи, учителя, инженеры, купечество, промышленный люд», - говорит о 15-ом доме на Лазаренко председатель Могилевского областного совета Белорусского общества охраны памятников истории и культуры Владимир Кравченко.

Как рассказал известный могилевский историк, кандидат исторических наук Игорь Пушкин, этот двух-трехэтажный дом известен тем, что первоначально им владела и в нем жила семья евреев Литвиных. «Семья могилевских евреев Литвиных была широко известна в Могилеве в первой четверти XX века. В основном это были прекрасно образованные представители сферы здравоохранения», - отметил историк.

Согласно составленной им исторической справке, до 1917 года в здании, адрес которого тогда был Виленская 15, на первом этаже размещалась аптека и аптекарский склад Лифшица, токарная мастерская Левита, магазин Лугмана, фотомастерская Иванова, кабинет по приему больных самого владельца дома фельдшера Литвина. Второй третий этаж правого крыла здания использовались в качестве жилья.

«Согласно списку национализируемых и муниципализированных домов в 1924 году по Могилеву, последним домовладельцем здания по улице Лазаренко 15 как раз и являлся Литвин Израиль-Бер Файбишевич», - сообщил Пушкин.

В советское время здание использовалось под жилье, хозяйственные нужды, также в нем размещались торговые объекты. В частности, в 70-80 годы там находился знаменитый продовольственный магазин с винно-водочным отделом, известный могилевчанам под неофициальным названием «На полгоры».

Жилым дом был до 1985 года, а после приходил в запустение, несмотря на то, что был внесен в список историко-культурного наследия. И вот в 2011 году дом приобретает строительная компания «Сектор», чьи действия вскорости вызвали недовольство жильцов, проживающих в соседнем доме №17. Как утверждала одна из них Наталия Самохвалова, дом, который стоял бесхозным и в нем случались пожары, после приобретения «Сектором» окончательно стал раскрадываться: сняты последние фигурные ограждения с балконов, выполненные в виде ручной ковки, плита с крыльца с надписью «1910». Причем сделали это строители в нерабочее время, утверждала Самохвалова.

По ее словам, руководство «Сектора» не предприняло необходимых мер по охране дома, строительный мусор и продукты горения подолгу не вывозились, пыль от строительных работ проникала в квартиры соседнего дома, вызывая ухудшение здоровья жильцов.

Обо всем этом женщина писала в различные инстанции вплоть до Администрации президента, обращалась в правоохранительные органы. Некоторые жалобы, в частности, на не ежедневный вывоз мусора, подтверждались соответствующими структурами, на другие, в том числе о воровстве, как утверждала Самохвалова, должной реакции от милиции не было.

Руководство «Сектора» даже обратилось в суд общей юрисдикции на активную защитницу историко-культурного наследия, обвиняя ее в нанесении ущерба деловой репутации. Однако после четырех заседаний суд был прекращен из-за неподведомственности. В суд, разрешающий экономические споры – тогда Хозяйственный суд, «Сектор» обращаться уже не стал. Видимо, из-за нежелания дальше привлекать ненужное внимание к себе.

Интересно, что на суде, где в качестве свидетеля выступал Владимир Кравченко, говорилось, что здание было выкуплено у государства почти за 770 млн рублей. Однако, по словам краеведа, на продажу оно выставлялось за одну базовую величину (в 2011 году – 35 тыс. рублей), о чем свидетельствуют документы за подписью зампредседателя облисполкома Валерия Малашко.

Працяг на стр.4